# Дняпроўская СТРОМА

№ 13 лістапад 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


## Размова пра вершы і песні

19 лістапада 2012 г. у Магілёўскім дзяржаўным прафесійным аграрнесатэхнічным каледжы імя К.Арлоўскага адбылася сустрэча студэнтаў і выкладчыкаў з паэтам, сябрам ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі" Алесем Казекам і са старшынёй Магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Міколам Яцковым.

Госці расказалі пра свае жыццёвыя пуцявіны, пазнаёмілі прысутных с творчымі набыткамі. А.Казека адзначыў, што ягоная творчасць рухаецца ў некалькіх накірунках, але іх аб'ядноўвае адно – любоў да Айчыны, да роднай зямелькі-карміцелькі. Мікола Яцкоў расказаў аб тым, як нараджаюцца вершы і песні, і якую бязмежную





Алесь Казека і Мікола Яцкоў

глыбіню мае беларускае слова. У якасці ілюстрацый тэмы ператварэння верша ў песню зацікаўленым слухачам былі прапанаваны рамансы Міколы Яцкова на вершы Алеся Казекі.

У ходзе сустрэчы высветлілася, што ў каледжы існуе літаратурная суполка, праца якой патрабуе ўвагі і творчай дапамогі з боку прафесійных літаратараў. М.Яцкоў і А.Казека паабяцалі прыкласці свае намаганні ў гэтым накірунку.

*А.С.* Фотаздымкі Алы Яцковай.

### Встреча с прекрасным

В ноябре в колледже совместно с Центральной районной библиотекой Могилевского района был организован творческий вечер поэта Могилевщины А.Казеко. На вечере звучали стихи в исполнении автора. Поэт-песенник Н.Яцков читал не только стихи собственного сочинения, но и исполнял музыкальные композиции на стихи А. Казеко.

Мы слушали стихи с вдохновением, понравилось и музыкальное исполнение.

После прослушивания авторы беседовали с нами, интересовались, что нам интересно, потому что они тоже когда -то были молодыми.

На вечере мы познакомились с выставкой книг А.Казеко, Н.Яцкова и других современных белорусских авторов.

Хотелось бы пожелать, чтобы такие встречи проводились еще, нам интересно, что талантливые люди живут рядом с нами.

**Анастасия ВЕСЕЛКО, учащаяся группы 18.**




## ВОЛЬНЫ МІКРАФОН

### Я сустракаўся з унукам Купалы...

...Першае ўпамінанне пра Полацкае княства датуецца 862 годам. А ў мяне ўвесь час сядзіць у галаве 861 год, калі наўгародцы зразумелі, што самі дзяржавай кіраваць ня могуць, і запрасілі Рурыкаў. Заўважце, з таго часу аж да 12 чэрвеня 1991 году Расея ніколі не абірала расейскага кіраўніка сваёй дзяржавы. Калі на тэрыторыі Беларусі ўжо была дзяржава – Полацкае княства, – расейцы яшчэ ня ведалі, як дзяржавай кіраваць.

...У сучаснай беларускай літаратуры няма таго, што прываблівала б сённяшнюю моладзь. Вельмі добра апісваецца мінуўшчына: родная вёска, рэчка, маці, бліны і г.д. Дык пра гэта напісаў яшчэ Якуб Колас! Вы ж далей гэта не развіваеце. А хто з пісьменнікаў сёння паказвае, да чаго павінны імкнуцца людзі, чаго можна дасягнуць, калі мы будзем захоўваць беларускія традыцыі і ісці беларускім шляхам? Няма такіх... Я добра стаўлюся да беларускіх пісьменнікаў, але ўпэўнены, што тыя страты, якія нанеслі нашай літаратуры бальшавікі, адчуваюцца і сёння. Я не ў захапленні ад тых пісьменнікаў, якія выязджаюць у замежжа, там бязбедна жывуць і падказваюць адтуль, як нам жыць. Мне гэта не падабаецца. Такіх падказчыкаў хутка забудуць.

...У ЗША я сустракаўся з унукам Янкі Купалы – Вісвідасам Матулісам. Ягоны бацька – пазашлюбны сын паэта. Ад каго? Я ніколі не задаю такіх далікатных пытанняў. Але ўся беларуская дыяспара ў Злучаных Штатах пра гэта ведае, ведае таксама амбасадар Літвы ў ЗША. Яны нас і пазнаёмілі, я з ім гаварыў. Вісвідас ведае, чый ён унук, і шкадуе, што не вельмі добра валодае беларускай мовай.



*Станіслаў ШУШКЕВІЧ, палітык, літаратар.*

Паводле charter97

## Насустрач стогадоваму юбілею

*Крыху больш за год засталося да стогадовага юбілею народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Натуральна, гэта важная падзея патрабуе ад грамадскасці, дзяржаўных устаноў канкрэтных захадаў па ўвекавечанні памяці слыннага сына беларускага народа. Пачатак у некаторай ступені ўжо зроблены. У бягучым годзе ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшаў "Летапіс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова", падрыхтаваны Тэрэзай Голуб у Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.*

Аўтар сабрала вялікі фактычны матэрыял пра жыццё і творчасць Аркадзя Куляшова, перачытаўшы аб'ёмную перыёдыку і асобныя зборнікі дакументаў, літаратуразнаўчыя кнігі, успаміны пра паэта. Ва ўступным артыкуле да кнігі яна адзначае: *"Сабраныя ў "Летапісе..." звесткі ўзнаўляюць факты з жыццёвай і творчай біяграфіі А.Куляшова, ствараюць адпаведны грамадскі фон, пэўнае ўяўленне пра сацыяльна-бытавое, нацыянальна-культурнае асяроддзе і ролю народнага паэта ў ім".* З летапісу таксама можна даведацца пра акружэнне паэта, пра многіх яго аднагодкаў, сяброў і калег па творчай працы, што ў значнай ступені раскрывае воблік маладога тады паэта, яго грамадзянскую пазіцыю.

Многа месца ў летапісе адведзена радаслоўнай лініі, продкам паэта. Напрыклад, прадзед па бацькоўскай лініі быў выхадцам з Украіны, які, паводле сямейнага падання, запісанага дачкой паэта Валянцінай, у падлеткавым узросце разам з чумакамі прыехаў у Беларусь, меў прозвішча Куліш, быў запісаны хутчэй за ўсё па тагачаснай традыцыі як сын Куліша, а пазней ужо трансфармавалася ў прозвішча Куляшоў. Прыводзяцца звесткі і пра раннюю дапаэтычную пару жыцця, а таксама пачатак да кнігі, першыя спробы паэтычнага тварэння пад уплывам паэзіі М.Лермантава.

Аўтар "Летапісу..." звяртае ўвагу чытача на многія старонкі з лёсавызначальных падзей дваццатых – трыццатых гадоў, пра час вучобы ў Саматэвіцкай сямігодцы, пра першае беззваротнае каханне да аднакласніцы Алесі Карыткінай, якой на развітанне ён напісаў верш "Бывай...". Пра знаходжанне ў Мсціслаўскім педтэхнікуме, дзе ён пазнаёміўся з паэтамі З.Астапенкам і Ю.Таўбіным, якім у памяць пра іх трагічны лёс ён прысвяціў у шасцідзясятыя гады свой знакаміты "Маналог". Магчыма, тут варта было б Голуб згадаць і Максіма Лужаніна, які напісаў цыкл вершаў на працяг маналога, што тады ў сяброўскім коле быў і чацвёрты, менавіта Лужанін.

Зафіксаваныя ў "Летапісе..." і паездкі А.Куляшова на Хоцімшчыну, дзе ў школе працавалі яго бацькі, пра творчы працэс на беразе Бесядзі, пра пабыўкі ў родных мясцінах.

Надзвычай цікавы матэрыял падабраны за перыяд часу вайны, найчасцей мала вядомы шырокаму чытачу, бо размешчаны быў у ваенных газетах, стаўшых архіўным матэрыялам і бібліяграфічнай рэдкасцю. У прыватнасці, называецца кожны нумар газеты "Знамя Советов", у якіх друкаваліся вершы Аркадзя Куляшова на рускай мове ў адпаведнасці з рэдакцыйнымі патрабаваннямі.

У падабраных Тэрэзай Голуб матэрыялах засведчана актыўная дзейнасць Аркадзя Куляшова ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе.



У кнізе паказана, што ў пяцідзесятыя гады Аркадзь Куляшоў выступае актыўна як сааўтар кінасцэнарыяў. Так, напрыклад, фільм "Чырвонае лісце" для свайго часу быў знакавым, доўга трымаўся ў кінапракаце, па сутнасці, уваходзіць у класіку беларускага кінамастацтва.

У шасцідзясятыя гады паэт авалодвае новымі вяршынямі мастацкай творчасці, вершы вызначаюцца дакладнасцю формы, да філіграннасці адшліфаваныя шаснаццацірадковікі, напоўненыя глыбокай філасофскай думкай, напісаў паэму "Цунамі" і іншыя творы. Творчае жыццё паэта характарызуецца таксама і яго актыўнай перапіскай па розных праблемах літаратуры, выданне твораў сусветнай класікі. 31 кастрычніка



# Рэкамендавалі адзінагалосна

24 лістапада 2012 г. адбылося чарговае пасяджэнне магілёўскага аддзялення Грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу за ліспапад, расказаў аб падзеях і мерапрыемствах на Магілёўшчыне, у якіх узялі удзел сябры аддзялення. Адбылося знаёмства з творчасцю Віталя Еўмянькова, які мае намер уступіць у СБП. Прысутныя прынялі ўдзел у абмеркаванні і адзінагалосна рэкамендавалі В.Еўмянькова да ўступлення. Запрошаны госць, кіраўнік літаратурнага гуртка магілёўскага аддзялення таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Аляксей Карпенка прачытаў свае вершы, і адбылося зацікаўленае абмеркаванне гэтых твораў. Маладому аўтару раілі рыхтаваць да выдання сваю кнігу. Былі разгледжаны таксама іншыя пытанні жыццядзейнасці магілёўскага аддзялення. У пасяджэнні ўзяў удзел намеснік старшыні СБП Эдуард Акулін.




Віталь Еўмянькоў


Эдуард Акулін


Фелікс Шкірманкоў


Яраслаў Клімуць


Таццяна Барысік


Міхась Булавацкі


Ала Яцкова


Сяргей Украінка


Аляксей Карпенка


Мікола Яцкоў

# Насустрач стогадоваму юбілею



1968 года апублікаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб прысваенні Аркадзю Куляшову ганаровага звання народнага паэта БССР, адзначана ў кнізе рэагаванне на гэта грамадскасці і калегаў А.Куляшова.

У сямідзясятыя гады Куляшоў, нягледзячы на слабы стан здароўя, актыўна працуе. Ім напісаны паэмы "Хамуціус", "Далёка да акіяна", "Варшаўскі шлях", праніклівы твор пра лёс паэта і паэзіі, прысвечаны памяці А.Твардоўскага, з якім А.Куляшоў падтрымліваў сяброўскія адносіны.

"Летапіс..." павінен быць у кожнага настаўніка роднай літаратуры. На жаль, гэта малаверагодна, ён выдадзены толькі лікам трыста экзэмпляраў. Так што ёсць неабходнасць другога выдання. Толькі аўтару трэба ўважліва перагледзець кнігу, сёе-тое ўдакладніць, бо ёсць друкарскія недагляды, непераканаўчыя сцвярджанні, як, напрыклад, тое, што Марыя Верашчака, у якую быў закаханы Адам Міцкевіч, паходзіла з Украіны, хоць на самай справе яна ўраджэнка Навагрудчыны, іншыя недакладнасці. Неабходна дапоўніць кнігу новымі матэрыяламі.

І яшчэ адно. Да блізкага юбілею ёсць неабходнасць выканаць Пастанову Савета Міністраў БССР, у якой адзін з пунктаў патрабуе выдаць Поўны збор твораў Аркадзя Куляшова. А каб выдаць яго, неабходна сабраць усе матэрыялы. Таму ёсць просьба да чытачоў прысылаць на кафедру беларускай літаратуры Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта пісьмы А.Куляшова або іх завераныя копіі, іншыя матэрыялы, калі яны ёсць.

*Яраслаў КЛІМУЦЬ, дацэнт.*

"Магілёўскія ведамасці", 20.11.2012 г.

МВ Магілёўскія ведамасці

# Няма тваёй усмешкі сярод нас...

25 лістапада, у 24-ю гадавіну з дня смерці Яўгеніі Янішчыц яе магілу наведалі школьныя сябры — Раіса Ганчарык, Ніна Макарская, Раіса Базылік, а таксама паэты Васіль Жуковіч, Тамара Аўсяннікава. Да ўскладання кветак і ўшанавання памяці Яўгеніі далучылася і Святлана Калядка — даследчыца-літаратуразнаўца, аўтар манаграфіі *"Непрыручаная птушка Палесся. Творчая індывідуальнасць Яўгеніі Янішчыц"*. Васіль Жуковіч прачытаў вершы, прысвечаныя Яўгеніі Янішчыц, а Тамара Аўсяннікава — творы палескай паэткі.





*Тамара АЎСЯННІКАВА*

**НЯМА ТВАЁЙ УСМЕШКІ СЯРОД НАС**

*Нічога не вяртаецца назад:*
*Ні гэты міг, ні гэты дзень, - я знаю.*
*Я.Янішчыц*

*«Нічога не вяртаецца назад»,* -
У дзень той спадарожніцам чытала.
Не ведала, што ты – у снегапа-а-а-д!
І на зямлі
адной сняжынкай болей стала.

*«Нічога не вяртаецца назад»,* -
Шчымліва ў вершы ты сваім пісала.
О, як нявесціцца вясновы сад!
Ды кветачкай адною
ў свеце меней стала.

А сёння вершаў розных – цераз край.
І шкадаваць, як быццам, не да твару,
А я крычу у лістапад праз май:
Мой Бог, вясну вярні,
вярні паэту мару!..

О, як змяніўся свет за гэты час!
Чаму ж ты крылы лебедзевы склала?
Няма тваёй усмешкі сярод нас –
І песняю тваёй на свеце меней стала.

Вясну любіла, спелае жніво,
«Сланечнікі» і «Касачы» Ван Гога,
У глебы брала сілу і цяпло,
Ірвалася да зор –
у вечнасць йшла дарога.

Твой лёс паэта – неба прыгавор.
Beata sotimudo* так натхняла!
Магнітам быў Галактыкі прастор –
І зоркаю адной на небе болей стала.

*Beata sotimudo (лац.) — благаслаўленная адзінота.

*Васіль ЖУКОВІЧ*

## СВАЮ ТЫ ДРАМУ ПРАДЧУВАЛА

У вянок незабыўнай
Жэні Янішчыц

*Не подходите к ней с вопросами,*
*Вам всё равно, а ей – довольно:*
*Любовью, грязью иль колёсами*
*Она раздавлена – всё больно.*
*Аляксандр Блок*

* * *

…Восень. Позняя восень.
Мітусня, адыдзі!
Старажоўская, восем,
Трыста сорак адзін…

Ў госці ты запрасіла,
Каб не змог я забыць:
Бровы – вольныя крылы,
Вочы – мора журбы.

* * *

Успамінаецца найперш:
Аднойчы Блока ты чытала.
Сваю ты драму прадчувала,
Чытаючы класічны верш.

Трывожна за цябе было,
Ды пра найгоршае не думаў,
Вяртаўся да свайго я тлуму,
Адораны тваім святлом.

* * *

Пяць лістоў тваіх цудоўных –
Мне на радасць і тугу --
Захавалася.
Як памяць
Іх навекі зберагу.

Трапяткія – веснавыя –
Ўсе яны з адной вясны,
Ясныя і, як дыханне,
Натуральныя яны.

Пяць лістоў з твайго юнацтва –
Светлае далечыні.
Пяць лістоў, як пяць пялёсткаў
Лепшай кветкі – чысціні.

* * *

“Палесся мілае дзіця…”
Фільм я гляджу – і плачу.
Старонкі блізкага жыцця
Я і праз далеч бачу,

Старонкі, што ў душы збярог;
Я ж кнігі ўсёй не ведаў:
Там столькі болю і трывог
І столькі ўсякіх бедаў!

Я ж уяўляў, што ўсё працей,
Што ўсё працей намнога.
Мяне ўсё цешыла: расцеш,
Расце да зор дарога!

Пакуль не выспела журба,
На млечным шляху вершаў
(Як на жніве а ці ў грыбах)
Была ты першай, першай.

Суладдзем, харастом была,
Узнёсласцю, замілаваннем.
Чаму ж ты не перамагла
Глабальнага расчаравання?

Над валтузнёй, над мітуснёй
Высока узлятала.
Нашто аднойчы над зямлёй
Свае ты крылле склала?!

“Палесся мілае дзіця…”
Фільм я гляджу – і плачу.
Святога жалю пачуцця
Ніколі я не страчу.

# Сустрэчы

ФОТА АРХІЎ



*Тамара Аўсяннікава і Васіль Жуковіч*



*Тамара Аўсяннікава і даследчыца творчасці Я.Янішчыц Святлана Калядка*

*Елена БЫКОВА*

## Островок надежды - Буйничское поле

**(Отрывок)**

…И совсем не важно, что Могилёву не присвоено звание «Город-герой» – эта битва имеет не меньшее значение, чем битва под Москвой, Сталинградом, на Курской дуге. Именно тогда, на Буйничском поле, произошло зарождение веры в силу Советской Армии, силу и самоотверженность советского народа. Какой ценой? Это уже другой вопрос. Люди не щадили живота своего, не думали о себе, не думали о наградах. Тысячи остались безымянными на поле боя, в братских могилах. На мой взгляд, самым трудным в той ситуации было – не поддаться панике. Такое молниеносное завоевание городов и стран, какое увидели люди со стороны фашистской Германии, пугало и подавляло волю и стойкость людей. И кроме того, что солдаты полка Кутепова обороняли наш город не щадя себя, кроме того, что люди, простые горожане, положили все силы на рытье противотанковой траншеи, сохранившейся до сих пор, они не сломались изнутри, не поддались этому страху. Наверное, в этом и заключается их героизм. В победе над собой.

А есть ли такие люди в наше время? Самоотверженные, патриотичные, готовые пожертвовать собой во имя жизни других? Я думаю, есть. Такие люди есть всегда, несмотря на то, что для большинства эти слова сегодня мало что значат.

Когда идёшь по Буйничскому полю, где все напоминает о тех днях жизни и смерти, чувствуешь прежде всего гордость. Гордишься своими корнями, вспоминаешь все те истории про героев, которые в детстве местами казались неправдоподобными. Трудно даже представить, как человек может пожертвовать собственной жизнью, терпеть адские пытки ради сохранения какой-то военной тайны. Оказывается, может. Только это осознание приходит со временем и по мере того, как человек окунается в историю.

Говорят, что человек жив, пока о нем помнят. Мы помним о тех героях. Помнит и Буйничское поле, ставшее для них "отровком надежды".

# ІХ Сіманаўскія чытанні



**29-30** лістапада ў Магілёве адбыліся ІХ-я Міжнародныя “Сіманаўскія чытанні”. Штогадовае літаратурнае мерапрыемства прымеркавана да дня нараджэння пісьменніка Канстанціна Сіманава. У межах форума ў Беларуска-расійскім універсітэце быў праведзены «круглы стол».

У абмеркаванні стану сучаснай беларускай і рускай літаратуры ўдзельнічалі кіраўнікі ідэалагічных службаў вобласці і горада, прадстаўнікі Пасольства Расіі ў Беларусі, пісьменнікі з Масквы, Бранска, Смаленска, Мінска, Гомеля, Віцебска і Магілёва, навукоўцы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый.

Цягам гутаркі было адзначана, што пісьменнік як прадстаўнік інтэлектуальнай эліты павінен спрыяць разнабаковаму і якаснаму



*Пасяджэнне «круглага стала»*

развіццю літаратуры, выхоўваць у сваіх чытачах імкненне да гуманістычных каштоўнасцяў. Асобна была звернута ўвага на неабходнасць кансалідацыі творчых саюзаў і суполак Расіі і Беларусі, наладжванне міжкультурнага супрацоўніцтва.

Ганаровымі дыпломамі “Перамога” праўлення Маскоўскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі і Саюза пісьменнікаў



*Надзея Драбышэўская ўручае ўзнагароды Тамары Аўсяннікавай і Міколу Яцкову*

баталістаў і марыністаў Расіі за ўнёсак у ваенна-патрыятычнае выхаванне моладзі і літаратурную спадчыну народаў Расіі і Беларусі былі ўзнагароджаны сябры магілёўскага аддзялення Грамадскага аб’яднання “Саюз беларускіх пісьменнікаў” Тамара Аўсяннікава, Сяргей Украінка і Мікола Яцкоў, а таксама літаратурны клуб “Святліца” Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі “Агат”.



Почетный диплом
ПОБЕДА
награждается

Украинка Сергей Сергеевич

За вклад в военно-патриотическое воспитание молодежи и литературное наследие братских народов России и Белоруссии и в связи с «Симоновскими чтениями – 2012».

Председатель Правления Московской городской организации Союза писателей России,
Заслуженный работник культуры РФ

Председатель Правления Союза писателей баталистов и маринистов,
Заслуженный работник культуры РФ

Былі падведзены вынікі творчага конкурсу паэтаў і празаікаў Беларусі і Расіі «У адзінстве наша сіла». Журы, у складзе якога працавалі С.Украінка і М.Яцкоў, вызначыла пераможцаў. Гэта паэты А.Федзяева (Віцебск), В.Кулікоў-Ярмонаў, У.Шуваеў (Варонеж), Н.Мішына (Бранск), А.Ярашонак (Вілейка), З.Шылянкоў (Брэст), Н.Новікава, Б.Варонін (Магілёў) і празаікі Я.Крыцкі, Е.Багадзяж (Мінск), А.Быкава, Е.Анішчанка, М.Федзюкова, М.Рыськоў (Магілеў), В.Чакіраў (Варонеж) і інш. Пераможцы атрымалі ўзнагароды.



Общественное объединение
«Русское культурно-просветительское общество»



ДИПЛОМ

Награждается
Быкова Елена,
занявшая III место в финальном туре
Международного литературного конкурса
«В единстве наша сила»,
посвященного 1150-летию российской государственности и приуроченного к «Симоновским чтениям - 2012»

Номинация «Проза»
возрастная группа до 18 лет

Председатель Л.А. Володько
29 ноября 2012г.

Могилев
2012

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

Фотаздымкі А.Яцковай і В.Навічонка.



# Творы пераможцаў конкурсу "У адзінстве наша сіла"



### *Борис ВОРОНИН* (г.Могилёв)

## ЗАВЕЩАНИЕ

*Памяти Константина Симонова.*

Писателю снился опять сорок первый...
Он едет в машине дорогой лесной,
Как трудно дышать от пылищи той серой!
Вдруг "мессеров" стая летит над землёй...

Бомбёжка, разрывы и град пулемётный...
В ушах крики женщин, рыданья детей,
От ужаса он просыпается потный,
А в окнах палаты - сверканья огней.

Он вновь засыпает в какой-то тревоге...
Всё тот же в воронках истерзанный шлях,
Вдруг танки с крестами, но ватные ноги,
Бежать он не в силах, а рядом уж враг...

А было ж такое тем яростным летом,
Но что разогнало тот ужас войны?
И стал вспоминать он при утреннем свете
Другие, совсем не похожие дни.

...Идёт с командиром он узким окопом,
Недавно ещё был с фашистами бой.
И вот перед ними дымящимся скопом
Немецкие танки, хоть трогай рукой.

На танках подбитых и копоть, и пепел,
Уже не стальные чудовища – лом!
– Хотели с наскока, – сказал вдруг Кутепов, –
Пусть сунутся снова, опять их сожжём!

И столько спокойствия было при этом,
И так прозвучала уверенность тут,
Что он, военкор, поспевающий следом,
Поверил вдруг сразу: враги не пройдут.

– Рубеж этот Буйничский долго держался,
Фашисты прорвались с другой стороны...
Вот если бы каждый боец так сражался,
Иначе сложились бы судьбы войны!

Ещё бы увидеть места те святые...
Там всё изменилось, другой уже вид...
Да только забыл ты про вещи простые:
Болезнь не отпустит, проклятый плеврит...

Дни, ночи летели, болезнь обострялась,
Когда ж не осталось почти уже сил,
Больной попросил тогда сущую малость, –
Придти самых близких к себе попросил.

Родные вошли, не скрывая печали,
В глазах отражались и горе и страх, –
Но твёрдо и ясно слова прозвучали:
– Над Буйничским полем развейте мой прах!
............
Умиротворённо священное поле,
Там летом прекрасно: цветёт всё вокруг.
Ничто не страшит те окрестности боле,
И веришь: спокоен писателя дух.

### *Наталья МИШИНА* (г.Брянск)

## ВСТРЕЧА НА БУЙНИЧСКОМ ПОЛЕ

*Посвящается К.Симонову*

Над полем снова зарево заката,
Сентябрьский ветер поднимает прах.
Меня встречают воины-ребята,
Стрелковый полк, воскресший в небесах.

Я с вами — каждой прожженной частицей!
В земле и небе с вами я, друзья!
Душа летит освобожденной птицей
Сквозь время в бесконечность бытия.

Вы помните наш «островок надежды» -
Победы символ в роковой войне?!
Я к вам вернулся, с вами я , как прежде,
Надеюсь, не забыли обо мне?

Я помню эти тридцать девять танков,
Я помню, как сражался Могилев,
И зарево горящих тех останков...
Я с вами был... И вот я с вами вновь.

Спасибо вам за мужество и силу,
За то, что смело бились и спасли
Вы Беларусь и светлую Россию
Такой ценой, что сами полегли.

Не просто полегли, Живым примером
Останется ваш подвиг на века!
«Горячим днем» в кошмарном 41-ом
Сломили вы бесстрашного врага.

Всю жизнь я помнил это поле боя.
Живых и мертвых стал бояться враг.
Вы мне родные, близкие до боли -
И потому развеян здесь мой прах!

### *Владимир ШУВАЕВ* (г.Воронеж)

## ПОСЛЕДНЯЯ ФОТОГРАФИЯ

*К.М.Симонову*

Он прощается с дочерью,
И, как видно, навек.
Автор строгого почерка,
Фронтовой человек.

Знал сержантов и маршалов,
Всех рабочих войны —
И в грохочущем мареве,
И в часы тишины.

Знал поля под Воронежем
И в огне Сталинград,
Где в окопную родину
Падал мёртвый солдат.

Наконец — Могилёвское,
Где осел навсегда...
Поле кровное, слёзное...
Пеплом выпал туда.

### *Аксана ЯРАШОНАК* (г.Вілейка)

## СУМНАЕ СВЯТА

*Дзеду Пятру Мацвеевічу Камінскаму - франтавіку, інваліду вайны*

Праменне працінае небакрай,
Заселянелі клёны ля дарогі.
Ізноў прыгожы, урачысты май
Нас расхвалюе святам Перамогі.

Ужо у квецень апрануўся сад
І шчодрай барвай радуюць цюльпаны.
Ды толькі з кожны годам на парад
Ўсё менш і менш прыходзіць ветэранаў.

Ля помніка – бярозы у журбе,
У шуме траў – мінорныя сугуччы.
Я сёння з болем згадваю цябе,
Дзядуля, непабачаны унучкай.

### *Василий КУЛИКОВ - ЯРМОНОВ* (г.Острогожск, Воронежская обл.)

## СЕМЬ СЫНОВЕЙ

*Баллада*

Семь сыновей — одна изба.
Семь сыновей — одна судьба.
    Иван. Роман.
    Демьян. Степан.
    Андрей. Сергей.
    И младший Митрофан.
Фашистский ворог у ворот, —
Семь сыновей — надёжный фронт.
    Иван, Роман — танкисты.
    Демьян, Степан — артиллеристы.
    Андрей, Сергей — сапёры.
    А младший — партизан.
Сражались за свою судьбу —
И похоронки шли в избу.
    Иван, Роман — под Оршей.
    Демьян, Степан — у Ржева.
    Андрей, Сергей — на Волге.
    А Митрофан — в лесах.
Минуло долгих сорок лет, —
Глядит старуха — где их след?
    Под Оршей и у Ржева? —
    Ни жалобы, ни гнева.
    На Волге и в лесах? —
    Тоска да боль в глазах.
Нет сыновей — одна изба.
Нет сыновей — одна судьба.
Сгорел закат — темно в избе.
Она поклоны бьёт судьбе:
    — Иванушка. Романушка.
    Демьянушка. Степанушка.
    Ах, этот Ржев!.. Ах, эта Орша!..
    Андреюшка. Сергеюшка.
    Митроша... меньшенький... Митроша...
Семь сыновей — одна изба.
Семь сыновей — одна судьба.

# Вяртанне

30 лістапада па запрашэнні кіраўніка літаратурнага клуба “Святліца”, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Тамары Аўсяннікавай у магілёўскай школе № 37 адбылася сустрэча з маскоўскімі гасцямі.

Выступілі кандыдат філалагічных навук, сябар Саюза пісьменнікаў і Саюза журналістаў Расіі, выкладчык Маскоўскага інстытута журналістыкі і літаратурнай творчасці , кандыдат філалагічных навук Надзея Мікалаеўна Драбышэўская і заслужаны работнік культуры Расіі, сябра Саюза пісьменнікаў і Саюза журналістаў Расіі Аляксандр Уладзіміравіч Драбышэўскі.

Госці расказалі, што іх радзіма — вёска Чачэвічы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці, а свой працоўны шлях яны пачыналі ў Магілёве. Потым так сталася, што яны апынуліся ў Расіі, стварылі сям’ю. Знайшлі сябе ў літаратуры, журналістыцы і робяць вялікія намаганні па развіццю плённых стасункаў паміж літаратарамі Беларусі і Расіі.

З юнымі паэтамі і журналістамі быў праведзены майстар-клас. Напрыканцы Надзея Драбышэўская прачытала свае вершы, і ўдзельнікі клуба “Святліца” таксама паказалі свае лепшыя творы.

*А.Быкава, М.Яцкоў.*





*На фота: Тамара Аўсяннікава, Аляксандр и Надзея Драбышэўскія; разам з удзельнікамі сустрэчы*

“ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА”
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”.
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкующца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *1.12.2012 г.. 21.00.*
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.